# На 55-ы дзень службы Радзіме шараговец застрэліўся

## Аднак гэтая смерць абкружана загадкамі

Паліна СЦЕПАНЕНКА

**У верасні 1999 г. пры загадкавых абставінах загінуў шараговы ўнутраных войскаў Сяргей Толкач. 12 ліпеня 1999 года С.Толкач быў прызваны ва ўнутраныя войскі, праходзіў вучэбныя зборы ў Баранавічах, пасля прыняцця прысягі патрапіў у трэці батальён вайсковай часткі №7404 г.Івацэвічы па ахове калоніі строгага рэжыму ІТК-5. У Івацэвічы С.Толкач прыбыў 19 жніўня 1999 года. А праз 18 дзён яго не стала.**

«Гора абрынулася на нашу сям'ю. Немагчыма выказаць словамі тыя пакуты, якія адчулі ў той дзень і адчуваем сёння, мы, ягоныя бацькі, — гаворыць бацька Сяргея, Уладзімір Толкач. — Але яшчэ горш робіцца ад таго, што мы не ведаем усёй праўды пра гібель нашага адзінага сына».

7 верасня 1999 г. у кватэры бацькоў Сяргея Толкача ў Баранавічах прагучаў званок, тэлефанавалі з часткі, паведамілі, што з сынам здарылася няшчасце. Маці, Галіна Толкач, спытала: «Яго што, пабілі?» «Так, пабілі», — і павесілі трубку. Увечары прыехаў афіцэр Ждан, прадстаўнік камандавання часткі, і сказаў, што Сяргей узяў ствол аўтамата ў рот і зрабіў тры стрэлы... Па словах бацькоў загінулага, спачатку камандзіры гаварылі так: «Гэта здарылася падчас змены вартавых. Ішла змена. Не даходзячы некалькіх дзесяткаў метраў да вартавой вышкі, яны пачулі стрэлы, пабеглі і ўбачылі...»

Праз два дні бацькі зноў паехалі ў частку. Цяпер ужо ім гаварылі, што ўсё адбылося не падчас змены варты, а на 15 хвілінаў раней — у 14.45. У тры гадзіны Сяргея Толкача павінны былі змяніць. Бацькі пыталіся: «А можа гэта ўсё ж такі адбылося пры змене варты, можа канфлікт нейкі ўзнік пры змене на вышцы?» Камандзір батальёна адказваў: «Вы што, мне не верыце? Я сам выбіваў дзверы!» А ў справе, па словах Уладзіміра Толкача, фігуруе іншы час — 15.00.

Бацька загінулага гаворыць: «Мы сталі высвятляць, калі паступіў выклік у «хуткую дапамогу». Нам паказалі запіс — «выклік паступіў у 15.06». Атрымліваецца, што 20 хвілінаў сын ляжаў у цяжкім стане на вартавой вышцы? Калонія ад бальніцы недалёка. Што ж там рабілася? Што было? Вартавая вышка, дзе адбылася гэтая трагедыя, чамусьці была знішчаная, прычым на працягу сутак. А можа і хутчэй, таму што маці ўжо ў першы вечар паказалі толькі дзве дошкі ад вартавой вышкі. Адна дошка ад столі з адтулінамі ад кулі, другая ад падваконня з надпісам: «Кто выжил, тот счастливым будет, кто умер, тот счастливым стал». Сцвярджаюць, што гэта наш сын зрабіў гэты надпіс. Такі ж самы надпіс з'явіўся на вырваным аркушы ў сшытку сына. Але ж гэта не сынаў почырк. У справе гэты надпіс фігуруе як перадсмяротная запіска сына.



Сяргей Толкач, здымак другога и апошняга месяца службы

Але ж гэта менавіта турэмны надпіс. Ён характэрны для таго асяроддзя, дзе сын служыў. Турма...»

Вышка разабраная — месца падзеі знішчанае. У пастанове аб закрыцці крымінальнай справы фігуруе толькі яе апісанне: «Драўлянай канструкцыі, зашклёная, абсталяваная дзвярыма, якія зачыняюцца знутры, сродкамі сувязі, трывожнай сігналізацыяй, пірамідай для захоўвання зброі і круцячымся табурэтам, для нясення службы седзячы».

Бацькі хацелі паглядзець тое месца, дзе загінуў іх сын: «Мы прыехалі на другія суткі ў батальён, каб паглядзець вартавую вышку, пераканацца, што ўсё было так, як гаворыць камандзір, але вышкі ўжо не было...» Прадстаўнікі камандавання часткі патлумачылі, што на вышцы дзейнічалі нейкія «цёмныя» сілы, бо некалькі гадоў таму на гэтай самай вышцы пры падобных абставінах загінуў салдат з Гомеля, нехта Маскаленка. Вось і сказаў бацькам палкоўнік Аляксандр Шалік: «Мы запрасілі святара, асвяцілі вышку, разабралі і спалілі».

Але з матэрыялаў следства вынікае, што святара не запрашалі — хацелі запрасіць, але не засталі дома. Ад камандавання прыйшоў пісьмовы адказ, што «вартавая вышка ўздзейнічала на маральна-псіхалагічны стан ваеннаслужачых, таму яна была дэмантаваная і знішчаная». Бацька Сяргея Толкача лічыць, што вышку можна было знішчыць толькі пасля «заканчэння папярэдняга следства, пасля правядзення там следчых дзеянняў. Гэта было месца, на якім можна было ўзнавіць карціну здарэння. А так выглядае як замятанне слядоў».

7 сакавіка гэтага года следчы Баранавіцкай міжгарнізоннай ваеннай пракуратуры С.Новік у сваёй пастанове пра спыненне крымінальнай справы напісаў: «У 12 гадзінаў 7 верасня 1999 г. С.Толкач у чарговы раз заступіў на пост. У 15.00 даклаў па тэлефоне начальніку варты пра вынікі нясення службы, пасля чаго, седзячы на табурэце, узяў аўтамат з піраміды, уставіў ствол аўтамата сабе ў рот і зрабіў шэраг стрэлаў, зрабіў сабе скразное раненне галавы. З атрыманымі пашкоджаннямі быў дастаўлены ў Івацэвіцкую раённую бальніцу, дзе 14 верасня гэтага года, не прыходзячы ў прытомнасць, памёр ад атрыманых раненняў».

З паказанняў сведкаў: «Камандзір батальёна Прысмыцкі падчас допыту паказаў, што каля 15 гадзінаў 7 верасня 1999 г., знаходзячыся ў каравульным памяшканні ІТК-5, ад вартавога пульта кіравання атрымаў паведамленне пра тое, што на посце № 9 разблакаваная піраміда з аўтаматам і вартавы гэтага паста на сігналы і выклікі не рэагуе. Было прынятае рашэнне хутка рухацца да паста. Па прыбыцці на пост Прысмыцкі з дапамогай начальніка каравула прапаршчыка Яфімчыка і камандзіра ўзвода аховы ст.прапаршчыка Ахвандзерава, адцягнуўшы дзверы будкі, трапілі ў яе. Радавы Толкач сядзеў на табурэце, на яго твары была кроў. Аўтамат знаходзіўся ў яго паміж ног, ствалом дагары. На падлозе валяліся тры стрэляныя гільзы, а на столі былі бачныя тры прабоіны ад куляў. Прысмыцкі хуткім рухам адхіліў руку Толкача, забраў аўтамат і разрадзіў».

Следчы робіць выснову, што малады салдат скончыў жыццё самагубствам, тым самым «рэалізаваўшы сваю веру ў замагільнае жыццё». Бацька загінулага гаворыць: «Шмат людзей верыць у замагільнае жыццё. Але з-за гэтага ніхто страляцца не будзе, бо жыццё дадзенае чалавеку Богам, таму і забраць гэтае жыццё павінен Бог. Разважаючы так, чалавек не можа сам сябе пазбавіць жыцця. Няма ў высновах следчага логікі. Праўду хаваюць. Гэта можна зразумець, азнаёміўшыся з матэрыяламі следства. Хавалі сляды. Таму можна меркаваць, што следчыя органы ведаюць альбо здагадваюцца аб тым, што адбылося на самай справе».

Варта адзначыць, што перад тым, як атрымаць у рукі зброю, Сяргей Толкач быў агледжаны псіхіятрам часткі, які паставіў яму дыягназ — здаровы. Аднак пасмяротная «дадатковая псіхолага-псіхіятрычная экспертыза паказала, што Толкач пры жыцці выказваў прыкметы часовага разладу псіхічнай дзейнасці».

Можна доўга разважаць пра тое, што магло адбыцца ў калоніі строгага рэжыму ў Івацэвічах. Але не будзем браць на сябе функцыі следчых органаў – мы не маем на гэта права. Версія бацькоў – сын стаў ахвярай нестатутных адносінаў паміж ваеннаслужачымі.

Гэтая гісторыя не мае завяршэння. Следчы С.Новік быў двойчы пакараны ў дысцыплінарным парадку і больш не працуе ў органах вайсковай пракуратуры. Брэсцкі міжгарнізонны ваенны суд, куды звярнуліся бацькі, вырашыў «скаргу бацькоў Толкача пакінуць без задавальнення, пастанову аб спыненні крымінальнай справы ад 7 сакавіка 2000 г., вынесеную старшым следчым міжгарнізоннай вайсковай пракуратуры, пакінуць без зменаў».

Брэсцкі суд прыйшоў да высновы, што асобаў, вінаватых у давядзенні да самагубства, няма, а сваё жыццё Сяргей Толкач скончыў сам.

Бацькі С.Толкача абскардзілі рашэнне Брэсцкага суда, і цяпер справа знаходзіцца на вывучэнні ў Беларускім вайсковым судзе, дзе гэтымі днямі павінна адбыцца паседжанне па гэтай загадкавай справе. ■

**Падрыхтавана па матэрыялах праваабарончага цэнтра «Вясна».**

## ПАДПІСКА

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету, калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на разліковы рахунак рэдакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 220123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

Падпісную квітанцыю (справа) для афармлення падпіскі трэба выразаць нажніцамі. У графе «Для пісьмовага паведамлення» **адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

**Паштовы перавод**, які можна зрабіць **у любым аддзяленні сувязі краіны** ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца. **Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб.**

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Прыорбанка» і «Белбізнесбанка». Запоўніце нашу квітанцыю, у графе «Від плацяжу» адзначце, з якога і па які месяц вы афармляеце падпіску.

### ОТДЕЛЕНИЯ БАНКОВ, ПРИНИМАЮЩИХ ПОДПИСКУ НА ГАЗЕТУ «НАША СВАБОДА»

**«ПРЫОРБАНК»:**

**Центральный офис**
220002, **г.Минск**
ул.В.Хоружей, 31А
**Филиал 0101**
220035, **г.Минск**
ул.Тимирязева, 46
**Филиал 0113**
**г.Минск**
ул.Комсомольская, 13
**Филиал 0106**
223210, Минская обл., **г.Червень**
пл.Свободы, 5
**Филиал 0108**
222621, Минская обл., **г.Несвиж**
ул.Ленинская, 162

**Головной филиал по Витебской обл.**
210026, **г.Витебск**
ул.Толстого, 3
**Филиал 0203**
211030, **г.Орша**
ул.Мира, 11
**Головной филиал по Могилевской обл.**
212030, **г.Могилев**
ул.Первомайская, 63
**Филиал 0306**
213760, **г.Осиповичи**
ул.Крупской, 33
**Головной филиал по г.Минску и Минской области**
220600, **г.Минск**
ул.Радиальная, 38А
**Филиал 0111**
220123, **г.Минск**
ул.Варвашени, 42А
**Филиал 0114**
**г.Минск**
ул.Трудовая, 10
**Филиал 0107,**
222310, **г.Молодечно**
ул.Вялікі гасцінец, 113А
**Филиал 0104**
223710, **г.Солигорск**
ул.Богомолова, 16А
**Филиал 0202**
211440, **г.Новополоцк**
ул.Блохина, 8
**Филиал 0302**
213800, **г.Бобруйск**
ул.Октябрьская, 149А
**Головной филиал по Гомельской обл.**
246050, **г.Гомель**
ул.Первомайская, 20
**Филиал 0401**
247760, **г.Мозырь**
ул.Интернациональная, 162
**Головной филиал по Брестской обл.**
224013, **г.Брест**
б.Шевченко, 6/1
**Филиал 0505**
225320, **г.Барановичи**
ул.Ленина, 71
**Филиал 0508**
225520, **г.Пинск**
ул.Советская, 14

**Головной филиал по Гродненской обл.**
230023, **г.Гродно**
ул.Мостовая, 37
**Филиал 0605**
213900, **г.Волковыск**
ул.С.Панковой, 58
**Филиал 0603**
231800, **г.Слоним**
ул.Комсомольская, 8
**Филиал 042**
247210, **г.Жлобин**
ул.Первомайская, 39
**Филиал 0404**
247400, **г.Светлогорск**
ул.Ленина, 49
**Филиал 0504**
224005, **г.Брест**
ул.Пушкинская, 16/1
**Филиал 0502**
225215, **г.Белоозерск**
ул.Ленина, 48
**Филиал 0506**
225710, **г.Ивацевичи**
ул.Иркутско-Пинской дивизии, 36
**Филиал 0602**
231300, **г.Лида**, ул.Чапаева, 20

**«БЕЛБІЗНЕСБАНК»:**

**Отделение «Центральное»**
**г.Минск**, пл.Свободы, 17.

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

04002280179

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по ______ 2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

Кассир

Плательщик

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по ______ 2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

**КВИТАНЦИЯ**

Кассир

Плательщик

КНІГАРНЯ

# Тысяча гадоў беларускай бюракратыі

Павел ЖАЎНА




**Анатоль Цітоў. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі. Ілюстраваны курс лекцый. Мн., 1999**

Для тых, хто хоць неяк цікавіцца беларускай старасветчынай імя аўтара кнігі, Анатоля Цітова, служыць гарантыяй цікавага зместу і дакладнай фасталогіі. Менавіта выдатныя кнігі Цітова «Геральдыка беларускіх гарадоў», «Геральдыка беларускіх местаў», «Пячаткі старажытнай Беларусі» сталі бестселерамі адразу пасля выдання.

Цітову належыць і мноства часопісных публікацыяў на тэмы старадаўніх беларускіх гербаў і пячатак. Навука, якая вывучае пячаткі, называецца ў перакладзе з грэчаскай мовы сфрагістыкай. Паколькі пячатка амаль заўсёды злучаная з гербам (ці з раўназначным сімвалам), дык новая кніга Цітова, па сутнасці, аглядае гісторыю выкарыстання пячатак на Беларусі ў афіцыйных ці юрыдычных мэтах. Змест кнігі складаюць лекцыі, прачытаныя аўтарам у БДУ ды іншых навучальных установах рэспублікі. Можна казаць, што – фармальна гэта падручнік па дзвюх модных цяпер дысцыплінам. На справе – гэта бадай першая кніга на Беларусі, прызначаная папулярна пазнаёміць шырокую аўдыторыю з прасторамі сфрагістыкі і геральдыкі, з шэрагам старадаўніх выданняў па геральдыцы, з рознымі звычаямі, сёння цалкам пазабытымі. Прыкладам, раней на Беларусі існаваў звычай ламаць пячатку на труне нябожчыка, што сімвалізавала знікненне ягоных юрыдычных правоў пры адыходзе на той свет.

Нашая сфрагістыка пачынае адлік свайго існавання ад пячаткі полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча, сына Рагнеды. Як вядома, князь памёр у 1001 годзе. Ад той першай князскай адзнакі ўлады праз цэлае тысячагоддзе пячатка служыла знакам індывідуальнасці ўладара, адлюстроўвала ягоны статус.

Бліжэй да нашых дзён, з развіццём дэмакратычных (бюракратычных) тэндэнцыяў, пячатка страчвае прыналежнасць індывіду і робіцца адзнакай супольнасці (суполак, таварыстваў і г. д.) Гэта паўплывала на выкарыстанне часцяком вельмі штучнай сімволікі. Прыкладам, пячатка менскага каапэратыўнага таварыства птушкаводаў мела ў цэнтры, дзе мы прызвычаіліся бачыць герб, графічную выяву курыцы.

Да месца зазначыць, што гэтае выданне багата праілюстраванае. Анатоль Цітоў аздобіў кнігу 236 ілюстрацыямі пячатак і гербаў, многія з якіх чытач убачыць упершыню. Прыкладам, старажытныя гербы на пячатках у выглядзе свастыкі (пячатка ад 1592 года пінскага лаўніка Лышковіча, віленскага мешчаніна Бяляя, родавы герб Барэйкаў і г. д.) За багаццем ілюстрацыйнай часткі стаіць вялікая праца даследчыка. Можна зразумець ягоныя пачуцці, зафіксаваныя на адвароце тытульнай старонкі, дзе аўтар папярэджвае, што «нічога з кнігі не можа быць передрукавана або скапіравана ў якой-небудзь форме... без адпаведнага дазволу аўтара», асабліва гэта тычыцца малюнкаў і фотаздымкаў. Сапраўды, мы не надта звыклыя абцяжарваць сябе павагаю да аўтарскага права і здабываем за хвіліну тое, на што другі чалавек затраціў жыццё.

Знаёмства з гэтай ёмістай кнігай дае адчуць, які вялікі пласт гісторыі мае Беларусь, як тут развівалася юстыцыя, як ствралася і трымалася нашая дзяржаўнасць. Без бюракратыі не бывае дзяржавы, а бюракратыі не бывае без належных адзнакаў. Калі хто мае сумнеў у беларускай дзяржаўнасці, якая пачынаецца з ранняга сярэднявечча, няхай зазірне ў гэтае выданне. ■


Пячатка вялікага кн. Аляксандра (1501г.)


Пячатка менскага таварыства птушкаводаў (1924г.)


Герб роду Барэйкаў

# Китай вступает в ВТО

## Еще 1.3 миллиарда людей вовлекаются в поток международной экономики

Джеффри САКС,
профессор экономики и директор Центра международного развития, Гарвард

**Наконец Америка и Европа сошлись во мнениях о принципах экономических реформ в Китае, что позволит Китаю присоединиться ко Всемирной Торговой Организации (*World Trade Organization*). Основываясь на этой договоренности, Китай должен получить свое членство к концу текущего года. Эту эпохальную перемену в отношении Китая к остальному миру можно смело соотнести с событиями, произошедшими пять веков назад.**

Для экономистов и историков, хорошо осведомленных в китайской проблематике, позиция этой страны в мире является загадкой. Например, трудно ответить на простой вопрос: почему Китай сегодня беден? Почему тут ВНП составляет на человека в среднем около 3.200 долларов в сравнении с 25.000 в США и Европе (расчет произведен на основе усредненных цен). Загадка кроется и в том, что между 550 и 1500 годами китайская цивилизация была ведущей в мире в областях техники и экономики. Вокруг темы продолжающегося упадка Китая на протяжении последних 500 лет ведутся бурные полемики историков.

Шесть веков назад, в начале 15-го века, Китай мог гордиться техническими новшествами, которых едва «коснулся» остальной мир – компас, навигационные навыки, печатающая машина, взрывчатое вещество. Китай как объединенное государство существовал на протяжении 1500 лет, и культура его государственности была достаточно изысканной. Вероятно, наиболее значительным достижением в начале 15-го столетия явились экспедиции китайского флота, имеющего корабли внушительных размеров, по маршрутам Юго-Восточной Азии, к берегам Индии и даже (между 1405 и 1431 годами) к Восточной Африке. В наши дни археологи находят следы китайского фарфора в Кении и Танзании.

Позже лидерство Китая ослабло. Мое видение этого ослабления, перевешивающее все остальные доводы, таково, что Китай отвернулся от мира. В 1430-х годах морские экспедиции Китая прекратились, флот был расформирован. Имперский суд из-за финансовых ограничений и угрозы набегов кочевников из Центральной Азии переместил столицу в глубину материка, в Пекин, и начал изоляцию государства с перспективой на будущие столетия. Постановления следовали одно за другим, уничтожая верфи, закрывая порты, запрещая китайцам покидать материк. Торговля и обмен товарами продолжались на самом минимальном уровне. Китай односторонне отказался от своей роли в мире.

В своей книге «Благосостояние Наций» (1776 г.) Адам Смит описал Китай как богатую цивилизацию, чье развитие заторможено вследствие архаичного закона о торговой изоляции. Он заметил, что китайцы относились к международной торговле «с крайним презрением». В то время как Китай удалился в «укрытие», Европа расширяла свое влияние в мире. Открытие европейцами морского пути в Азию (вокруг юга Африки) и американских континентов Смит назвал двумя величайшими вехами мировой истории. Эти события положили начало глобализации, но лидерство захватила Европа, а не Китай.

Китай сам растратил свой экономический и технический потенциал, этому никак не способствовала внешняя сила. Когда Европа и Китай столкнулись в Опиумной войне 1839 – 1842 годов, технологически развитая Европа превосходила Китай военной мощью, и Китай был вынужден пойти на ряд унизительных уступок. Императорская династия пала в 1911 году под влиянием внешнего давления и из-за необходимости перемен внутри страны. Изменения, однако, не прошли гладко. Падение династии предшествовало междоусобным распрям, а затем вторжению Японии в 30-х годах, тридцатилетнему диктаторскому режиму Мао Цзэдуна вместе с его компартией после Второй мировой войны.

Только с приходом к власти Дэн Сяопина в 1978 году Китай вновь открылся миру. Конечно, Дэн был заинтересован в экономических реформах, а не в политических преобразованиях. Но преобразования 1980-90-х годов можно назвать экстраординарными по всем параметрам. Впервые за нескольков веков Китай поддержал политику свободной торговли с остальным миром.

Факт вступления Китая в ВТО, как только Китай формально признает открытую торговлю и всеобщие правила международной экономики, консолидирует реформы, начатые в 1978 г., и закрепит за государством место суверенного и равноправного члена мирового сообщества.

Камнем преткновения для критиков свободной торговли с Китаем является устройство его политической системы. Ведь в такой форме – авторитарной по своей сути – она доминировала на протяжении двух тысячелетий. Понятно, что только такого рода государство могло «закрыть» себя на столетия действием единого указа, и что только при такой системе могла возникнуть проблема голода, практиковаться неэффективная экономическая политика и произойти культурная деградация, охарактеризовавшая период правления Мао.

Движение Китая к открытости – это курс на создание более свободного и гибкого общества. Молодое поколение китайцев и те, кто последуют за ним, будут желать и требовать политических свобод для самореализации в условиях больших экономических возможностей и участия в мировых событиях. В следующие несколько десятилетий благодаря открытию Китая миру мы увидим Китай открытым и для демократии – благо для Китая, это благо для всех нас. ■

P. S.


В 1997 году Народная армия Китая вошла в Гонконг. Теперь Китай входит во Всемирную Торговую Организацию

ТЭНДЭНЦЫІ

# У Беларусі жанчынам лепш, чым мужчынам

Самая вялікая ў свеце розніца паміж чакаемай працягласцю жыцця у «поўным здароўі» мужчын і жанчын усталявалася ў Беларусі. Аб гэтым сведчыць справаздача Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), у якой разглядаецца сярэдняя чакаемая працягласць жыцця жыхароў розных краінаў. Індэкс сярэдняй чакаемай працягласці жыцця з папраўкай на хваробы вылічваецца такім чынам, што час хваробаў «узважваецца» ў адпаведнасці з цяжкасцю захворвання і аднімаецца ад сярэдняй чакаемай працягласці жыцця. Пры гэтым, калі беларускія жанчыны ў сярэднім могуць чакаць 67,2 года «поўнага здароўя», дык для беларускіх мужчын гэты паказчык складае 56,2 года – істотная розніца ў 11 гадоў. Следам за Беларуссю, найвялікшая па гэтым індэксе розніца паміж мужчынамі і жанчынамі ў Расіі (10,3 года), Латвіі (10,1), Эстоніі (10,0) і Казахстане (9,7). Эксперты СААЗ тлумачаць такую вялікую розніцу ў краінах былога СССР высокім узроўнем спажывання алкаголю сярод мужчын, што вядзе да высокіх паказчыкаў няшчасных выпадкаў, гвалтоўных злачынстваў.

У агульным спісе Беларусь займае 83-е месца ў свеце — немаўля, народжанае сёння ў Беларусі, можа разлічваць у сярэднім на 61,7 года жыцця ў «поўным здароўі». Найлепшы паказчык у Японіі — 74,5 года, найгоршы ў афрыканскай краіны Сьера-Леонэ – 25,9 года. ■

АСПЕКТЫ

# Насилие в семьях сохраняется

Как говорится в последнем докладе Детского фонда ООН (ЮНИСЕФ), мировое сообщество смогло добиться незначительного прогресса в борьбе с одной из острейших проблем – насилием в семьях.

В выпущенном ЮНИСЕФ «Глобальном дайджесте насилия в семьях» утверждается, что насилие в семье продолжает подрывать права женщин и девочек во всех странах мира, а в ряде стран этому виду насилия подвергается каждая вторая женщина. Вследствие насилия в семьях, которое не зависит от культуры, класса, образования, доходов, этнической принадлежности и возраста, 60 миллионов женщин вообще не учитываются статистическими органами стран мира. Они являются жертвами своих семей: погибают от прямого или неумышленного насилия только потому, что являются женщинами.

В докладе ЮНИСЕФ предлагаются пути немедленной помощи жертвам насилия. Она призывает к осуществлению интегрированного подхода и к вмешательству различных секторов гражданского общества, включая лидеров общин и религиозных образований, а также обеспечение «безопасности» женщин посредством повышения юридической грамотности, образования и предоставления возможностей для занятости. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1785 Нумар падпісаны ў друк 15/06/2000 (15:00) Наклад – 9.790